# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 4 (1248) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 27 СТУДЗЕНЯ 1980 г. ЦАНА 1 зл.


ЧАМУ СЫМОН НЕ СТАЎ МУЗЫКАМ?

Адкрыванне Беласточчыны адбываецца па-рознаму, у залежнасці ад асабістых зацікаўленняў адкрывальнікаў. Адны з іх знаходзяць тут арыгінальныя даўнія формы розных пляцёнак і карабкоў з саломы і выводзяць на шырокі свет майстэрства народных умельцаў з Бельшчыны, Гайнаўшчыны і іншых ваколіц, адначасова даючы ім зарабіць па некалькі дзесяткаў тысяч злотых у год. Другія ж у той час шныраць па старэнькіх царквах і капліччках, валочацца па хатах ды выдзіраюць або выманьваюць за марны грош старажытныя іконы, кнігі, мэблю, тканіны, посуд, каб зарабіць у сваю кішэню на гэтым сотні тысяч, а то і мільёны злотых, і такім чынам проста абрабоўваюць наш рэгіён з каштоўных помнікаў культуры. Цяпер жа пачалі завітваць у беластоцкія вёскі і мястэчкі іншыя „адкрывальнікі“: яны пільна прыслухоўваюцца да спявачых і музыкальных здольнасцей тутэйшай моладзі, найбольш таленавітым хлопцам і дзяўчатам прапануюць музыкальныя школы ў Варшаве, Кракаве, Познані і заманлівую кар'еру артыста. Куды гэтых адкрывальнікаў залічыць: да прыяцеляў Беласточчыны ці яе ворагаў — сказаць цяжка, бо з аднаго боку яны ствараюць магчымасць вялікай будучыні нашай даравітай моладзі, але з другога — бесцырымонна ачышчаюць наш рэгіён з праўдзівых талентаў. І тут адразу ўзнікае пытанне: **як дбае сама Беласточчына пра музычную адукацыю свайго маладога пакалення ?**

За першым адказам на гэтае пытанне я падаўся на вуліцу Падлесную 2 у Беластоку, дзе на ўскраіне Зверынецкага парку ад 1973 г. знаходзіцца комплекс мастацкай адукацыі, або прасцей — Беластоцкая музычная школа. Яе дырэктар мгр **Тадэуш Бакун** паінфармаваў:

— У нашу зборную ўстанову ўваходзяць: музыкальная школа першай ступені з прадшколлем, асяродак балету, музыкальная школа другой ступені з завочным аддзяленнем, філіял Музыкальнай акадэміі ў Варшаве. Разам займаецца ў нас 1150 вучняў і студэнтаў. Па велічыні мы — самая вялікая такая навучальная ўстанова ў Польшчы. Пры тым — першая эксперыментальная, бо на нашым вопыце выпрацоўваўся статут зборных установаў мастацкай адукацыі для ўсяе краіны.




— І як вам, педагогам, працуецца над тым, каб давесці за дваццаць год шасцігадовага дашкольніка да магістра мастацтваў?

— Нялёгка. Перш за ўсё мы імкнемся стварыць адзіны, дружны калектыў настаўнікаў, бо моладзь — гэта ж вучні аж 57 розных школ Беластока і яго ваколіц. І нам многае ўдалося. Дзякуючы прыхільным, сяброўскім адносінам педагогаў да вучняў, індывідуальнай працы з кожным навучэнцам, у нас пануе асаблівая выхаваўчая атмасфера працавітасці, засяроджанасці і павагі. Затым у вялікай ступені мы патрапілі выкарыстаць для навучання і выхавання ўвесь патэнцыял нашых спецыялістаў.

— Пэўна, маеце вялікія цяжкасці са спецыялістамі, вядома, Беласток — гэта ж правінцыя...

(Працяг на стар. 4)






## А СНЕГ ІДЗЕ...

А снег ідзе, задумны і таемны,
Як з памяці, з глыбінь нябёсаў снег.
І тоне ў ім усё, нат голас пеўня,
І Галаса твайго нязлосны брэх.

І гэта ціша, гэтая аснежнасць —
Яны як сон ці нейкі дзіўны хмель.
У ім адпачывае Белавежа,
Улёгшыся ў пуховую пасцель.

І мы яе спакою не парушым
(Яго і так заўсёды нестае), —
Спакоем пушчы мы акрэпім душы,
Акрэпім душы мудрасцю яе.

А снег ідзе, кладзецца снег гаючы
На горышчы ўчарашнія і боль.
І не гняце нішто мяне, не мучыць,
Асветленае пушчай і табой.

Я дужа рад табе, я рад вяртанню
Сюды, да першароднасці святой...
...А снег ідзе... Нібы алень за ланню,
У нейкім элегічным хваляванні
І я іду, як хмельны, за табой.

А снег ідзе...

**Міхась Рудкоўскі**
**Фота В. Рудчыка**



*Дыван падвойны Станіславы Карнай в. Трахімаўка, гміна Нараў.*
*Фота М. Гайдука*

ПАД ЗАЛАТОЙ ВЕХАЙ

Разам са шматлікай групай сялян з многіх вёсак Беластоцкага ваяводства наведаў я спецыялістычную гаспадарку **Вальдэмара Генііюша з Геніюшаў** на Сакольшчыне. Экскурсанты цікавіліся вялікай свінафермай, якую ў 1979 годзе пабудаваў сабе гэты селянін.

Гэтая хлеўня знаходзіцца за вёскай пад лесам, прыліпла да ўзгорка, што зараз заўважылі практычныя гаспадары.

— Бачыце, як сабе выкамбінаваў — на жвіроўні пабудаваў хлеўню, — чулася ў натоўпе экскурсантаў. — Будаўнічыя матэрыялы ў яго на месцы, вазіць не трэба.

— Гэта вялікая выгода, — дакінуў




іншы, — бо транспарт цяпер паглынае надта ж многа грошай. Нядаўна купіў я 10 тысяч штук сілікатнай цэглы. Да мяне з базы — нейкіх 20 кіламетраў. Дык уяві сабе, — гаварыў той селянін, — што за транспарт, пагрузку і разгрузку давялося заплаціць мне больш як 2,5 тысячы злотых.

— А тут, — селянін паказаў рукой на будынак, — жвіру ўжо вазіць не трэба. Толькі гэтыя пліты.

Сапраўды, хлеўня Вальдэмара Геніюша пабудавана з гатовых вялікагабарытных панеляў, якія прадукуюць у Тшцяным, і кожны, хто хоча, можа сабе іх там купіць. Сяляне аднак з нейкім недаверам глядзелі на гэтую канструкцыю. Столькі ж наслухаліся яны нараканняў на дрэннае інвентарскае будаўніцтва паводле праектаў Інстытута механізацыі і электрыфікацыі вясковай гаспадаркі, што будынкі халодныя, што свінні ў іх масава хварэюць і слаба растуць, што замнога з'ядаюць кармоў. А хлеўня ў Вальдэмара Геніюша якраз пабудавана паводле тыповага праекта, апрацаванага тым жа інстытутам. Дык гаспадары хацелі б даведацца, як гэты будынак здае практычны экзамен.

— Мая хлеўня, — спакойна паясняе гаспадар, — мае больш як 42 метры даўжыні і амаль 10 метраў шырыні. Яе пабудову пачаў я ў маі 1978 года, а ў маі наступнага года ўжо паставіў тут свіней на адкорм. Ці холадна? Не, я гэтага не сцвердзіў. Бачыце самі, будынак вялікі, але мае цэнтральнае ацяпленне, і калі выпаў 15-градусны мароз, дык тут у хлеўні нават вада ў вёдрах не замерзла, хаця яшчэ не было двайных шыбаў у вокнах. На маю думку, будынак ізаляваны дастаткова. Сцены ў сярэдзіне запоўнены тартачнымі апілкамі, змешанымі з вапнай, такая ізаляцыя ад холаду пакладзена і на столі. Парасяты дадаткова грэюцца пад спецыяльнымі электралямпамі. Для спачынку свінні маюць драўляную падлогу, на якую хачу яшчэ пакласці гумовы падсціл...

Вальдэмар Геніюш выводзіцца са шматлікай сям'і. Разам з бацькамі было іх у хаце сем душ. Ён, Вальдэк, наймалодшы. Старэйшыя браты і сёстры канчалі школы і раз'язджаліся па свеце шукаць уласнага шчасця. А ён ахвотна дапамагаў бацьку, асабліва любіў коней, якімі славіўся гэты гаспадар. У 1958 годзе здарылася няшчасце — памер бацька, а ён, Вальдэмар, астаўся сам на гаспадарцы. 15 гектараў жвіраватай зямлі ўзваліліся на яго плечы. Гэты час успамінае неахвотна. Што там цікавага? Звычайная бяда асірацелай сям'і.

Цяпер у Вальдэмара Геніюша свая ўжо сям'я: дзве дочкі-блізнючкі, якія канчаюць пачатковую школу, і трохгадовы сын. І яшчэ яго ўлюбёныя коні — пародзістыя жарабцы, якімі славіцца ўся Сакольшчына. Ад гэтай бацькавай традыцыі ён не адрокся. Кожны год гадуе чатырох жарабцоў. Адзін з іх на аўкцыёне ў 1977 годзе заваяваў залатую медаль і купілі яго за 80 тысяч злотых. Сапраўды, залаты конік.

— Значыць, звяртаюся я да гаспадара, — у вас ужо была свая спецыялізацыя. Адкуль тады ўзялося зацікаўленне гадоўляй свіней?

— Адно другому не перашкаджае, — паясняе Вальдэмар Геніюш. — Адно патрэбна для гадоўлі коней, а зусім другое для адкорму свіней, тым болей, што свіней гадую я на яйках.

Не толькі я адзін падумаў, што гэты гаспадар проста сабе з нас жартуе.

(Працяг на стар. 4)

**БУГ У АГНІ**




Солтыс з вёскі Слохі Аннапольскія, Ян Семянюк, свае ўспаміны пра абаронцаў надбужных дотаў абагульніў вось так:

— Гэта сапраўдныя героі. Чуў я пра Аляксандра Матросава, які сваім целам прыкрыў амбразуру варожага дота. У надбужных бункерах дзесяткі савецкіх байцоў і афіцэраў у самым пачатку вайны загароджвалі ўласнымі грудзьмі пераможны паход гітлераўцаў на усход. Даслоўна, без ніякага пераўвялічвання. Вядома, на вайне людзі гінуць. Але адна справа пасці ад бамбёжкі, а зусім іншая справа, калі кажуць табе выбіраць: **жыццё** або **смерць.** Няма чалавека на свеце, які не хацеў бы жыць да канца, да апошняй хвіліны. І толькі наймужнейшыя ўмеюць пераадолець страх перад смерцю. Памятаю, — кажа солтыс Ян Семянюк, — праз тыдзень амаль безупынных баёў гэтыя савецкія воіны, што яшчэ неяк самастойна трымаліся на нагах, адны раней, а другія пазней, выходзілі з гэтых бункераў і, як правіла, многія з іх у паднятых уверх руках трымалі гранаты-„лімонкі". Бункеры былі абведзены землянымі валамі, і з-за гэтых валаў найперш ляцелі гэтыя ж „лімонкі", а затым ужо паказаліся абгарэлыя, атручаныя газам, засмоленыя спаленым порахам, абарваныя выбухамі абаронцы дотаў. Гітлераўцы страчылі ў іх з аўтаматаў, але многа нямецкіх салдат тут жа канчала свой паход на ўсход. Толькі фашысты сваіх зараз жа падбіралі — і пабітых, і параненых — ды адпраўлялі некуды за Буг, а рускіх хавалі ўжо нашы людзі. Пасля вайны, здаецца, у 1951 або ў 1952 годзе, іх астанкі збіралі і адвозілі на брацкія могільнікі ў Мілейчыцах і пад Бельскам. Толькі тады ўжо ніхто не ведаў ані прозвішча, ані ваеннага звання пахаваных. І ў час акупацыі небяспечна было значыць імем салдацкія магілы. Мы проста на копчыку ставілі бярозавы крыжык і больш нічога. Толькі ў памяці нашай яны засталіся. Жыў у нас адзін такі таленавіты вясковы спявак, мой равеснік і сябар, таксама як я — **Ваня,** толькі па прозвішчу **Карпюк.** Ды ён нават песню склаў пра ўсё тое, што тут тварылася... Толькі не ведаю, ці змагу вам яе заспяваць.

— Але паспрабуйце, — прашу яго.

— Тую песню ўсе тут знаюць і пры кожнай нагодзе яе спяваюць, — уключылася солтысава жонка. *„Двадцать*

**(Працяг на стар. 6)**

# Дзе пачынаецца хлеб?

Не помню, дзе прачытаў пра гісторыю хлеба. Аўтар пісаў, што першы хлеб пачалі выпякаць у Егіпце яшчэ ў часы фараонаў. А потым гэтая ўмеласць распаўсюдзілася па ўсяму Сярэдняму Усходу. У час II сусветнай вайны давялося мне даволі доўга быць у гэтых месцах: Ірак, Палестына, Ліван і Егіпет. І давялося бачыць, а то і прабаваць іхні хлеб. І хачу сказаць, што сапраўднага хлеба нідзе там не было. Вось у Іраку — там на ўсю вёску некалькі супольных печак, зробленых з гліны. Калі печку гэтую напаляць, то робяць такія ляпёшкі па жмені цеста і прыклейваюць іх зверху печкі. Калі гэтая ляпёшка падае ўніз, значыць, яна ўжо спечаная і можна есці.

Калі былі мы ў Ліване, даводзілася есці іхні хлеб. Цеста на хлеб тут было раскачвана, як у нашых гаспадынь раскачваецца на макароны. Такога аднак справядлівага і сумленнага народа, які пражываў у тых месцах нідзе, бадай, у свеце няма. Мы спалі ў палатках і па цэлых днях у нашых палатках было паўно-паўным дзяцей. Праганяць іх забараняла начальства. Хлеб у нас ляжаў адкрыта, але ні адно дзіця, хаця было і галоднае, да хлеба ці чаго іншага рукі не працягнула, каб самаму ўзяць. Калі яму, бывала, дасі кусок хлеба ці чаго іншага, то яно не ведала, як і цешыцца гэтым.

**Незнаёмы**

* ✲ *

Кажуць, што нават найбольш смакавітая рэч прыядаецца, а толькі хлеб не. Гэта найпраўдзівейшая праўда. Хлеб гэта багацце народаў, а як ён сапраўды смакуе, ведаюць толькі тыя, хто калі-небудзь быў галодным.

Якія ў нас адносіны да хлеба? Розныя, але не заўсёды такія, як трэба. Я не ведаю, хто, калі і дзе перш наеўся духмянага хлеба. Але ведаю, што гэта вынаходства ўсіх эпох, і жадаю, каб ніколі і нікому яго не бракавала.

Сённяшнюю заметку пішу я з вялікім жалем, бо кроў мяне залівае, калі гляджу на адносіны нашы да хлеба. Адны яго выкідаюць у сметнік, а іншыя нібы для таго і пякуць, каб больш з'ядалі свінні, чым людзі. Я ведаю, што злосць на гэта не толькі ў мяне, але людзі наогул маўчаць, бо думаюць, што калі хлеб нясмачны, то вінаваты нехта на вярхушцы. А тое, які хлеб, залежыць толькі ад пекараў. Вазьміце Беласток. Тут у кожным магазіне вы можаце купіць хлеб розных назваў, сартоў, цэн. Ён вам будзе з макам і без маку, белы і чорны, які хто хоча, выбірай! А вось у Орлі, Кляшчэлях ці Мілейчыцах няма такога выбару, але ...вось гэтае але! Там, як спякуць хлеб, то нашы гараджане, прывёзшы яго ў Беласток, дзеляць у сям'і на кусочкі, каб на даўжэй хапіла. А беластоцкі хлеб вёска таксама купляе, але выключна для свіней, бо, відавочна, лічаць, што ён мае многа вотруб'яў.

Я, як гавораць, з'яўляюся чалавекам, які не з адной печы хлеб еў. Аднак ніяк не магу зразумець, чаму беластоцкія пекары не паедуць на курсы ўдасканальвання прафесіі ў Орлю? Не саромцеся, паедзьце, папытайце, павучыцеся і прыедзьце, спячыце такі хлеб, які мае „правінцыя". А свінням пячыце па другой рэцэптуры.

**Васіль Петручук**

# МІХАЛОВА МАЕ КАБАРЭ

ГОК у Міхалове арганізаваў кабарэ п.з. "Без назвы". Патрэба такой формы дзейнасці адчувалася ў Міхалове, асабліва сярод моладзі. Да таго часу цяжка было прыцягнуць міхалоўскую моладзь у Дом культуры. І толькі выступленне кабарэ разам з існуючым вакальна-інструментальным калектывам „Омэн" зварухнула маладых. Яшчэ гадзіну да пачатку ля ўвахода ў кіно „Чайка" сабраўся натоўп. Зацікаўленых было многа. Міхалоўскае кабарэ вельмі спадабалася. Артысты нашы выступалі смела. Некаторыя з іх са сцэнай сустрэліся ўпершыню. Публіка дасканала разумела жарты.

Смела можна сказаць, што кабарэ прынялося Міхаловам. Наогул вядома, што міхалоўская публіка даволі патрабавальная, а часамі бывае пры гэтым і некультурнай. У выпадку сур'ёзных мерапрыемстваў арганізатары адчуваюць гэта асабліва. Нічога падобнага не паўтарылася цяпер. Бо і цяжка перашкодзіць члену кабарэ ў час выступлення, калі ён можа ўмелым падыходам павучыць некультурнага і заўстыдаць яго перад усімі.

Міхалоўскае кабарэ, хоць узростам і колькасцю членаў невялікае (большасць — гэта вучні агульнаадукацыйнага ліцэя), прыняў амбітную праграму. Хоча выступаць не толькі ў Міхалове, але і ў іншых гмінах ваяводства.

Праз усю праграму міхалоўскага кабарэ праходзіць крытыка людскіх недахопаў, ляноты, кар'ерызму.

Маем надзею, што кабарэ прыжывецца ў Міхалове.

**Рышард Дамброўскі**



ФАЛЬКЛОР

# ЖНІЎНАЯ




*Па гарэ, па даліні галубы лятаюць,*
*я раскошы ні ўжыла, ужэ лета мінаюць,*
*я раскошы ні ўжыла, ужэ лета мінаюць.*
*Я раскошы ні ўжыла, гора ні забуду —*
*па чом свае млодэ лета спамінаці буду,*
*па чом свае млодэ лета спамінаці буду?*
*Ой, вырву я з ружы кветку, пушчу я на воду:*
*— Плыві, плыві, з ружы кветка, аж да майго роду,*
*плыві, плыві з ружы кветка, аж да майго роду.*
*Плыла, плыла з ружы кветка, пры берагу стала,*
*прыйшла маці воду браці — з ружы цвет пазнала.*
*— Ой, чаго ж ты, з ружы кветка, так хутко збляднела?*
*Ой, мусіць ты, з ружы кветка, тры леці хварэла,*
*ой, мусіць ты, з ружы кветка, тры леці хварэла.*
*— Ні хварэла, ні балела ні дня, ні гадзіны —*
*папалася злому мужу, у ліхую дружыну,*
*папалася злому мужу, у ліхую дружыну.*
*Намачыўшы канапелькі, трэбо іх цягаці,*
*папаўшыся злому мужу, трэба гараваці,*
*папаўшыся злому мужу, трэба гараваці.*

Ад Яніны Радуха, 1923 года нараджэння, вёска Бянёўцы гм. Новы Двор, запісаў 18 ліпеня 1979 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.




# У. Дваракоўскаму

— Каму і навошта гэта патрэбна?! — грыміць, бы Яхва на гары Сінай, У. Дваракоўскі. Падразумеваецца мая палоска з крытыкай „белавежцаў" моднай плыні. Адказаў на гэтае пытанне наш народны паэт А. Леўшук з Ціванюкоў. Цытую: „Каб адгукнуліся тыя, што за дзядзькаквасавай палоскай цягнуцца, то ў „Ніве" не хапіла б плошчы, каб змясціць іх..." Во як! Не так, як вы думалі, мізэрныя праціўнікі маёй палоскі, народных густаў і традыцый, адшчапенцы, што самалюбна ўзнеслі самі сябе на падвоблачную вышыню Алімпа славы. Таму я і стрымаўся з адказам, дакладнютка выразаўшы жэшкі артыкул Дваракоўскага і склаўшы яго ў халадзільнік на верхнюю паліцу (хай стыне да часу). І меў рацыю. Час аказаўся спрыяльным саюзнікам. У незгасаючай палеміцы наплывалі ў „Ніву" словы прызнання маёй крытыкі з вясковага і гарадскога асяроддзя, з краіны і з заграніцы. Змешчаныя натацыі дакументуюць голас народа.

Наступнае пытанне: ці малады паэт, кіруючыся крытыкай Дзядзькі, знойдзе ў ей тое, што трэба?

Адказваю: справа яго, маладога чалавека. Пакажа будучыня. Мо на старасць знойдзе нешта.

Пытанне наступнае: і цікава запытацца ў Дзядзькі Кваса, супраць каго (і на што) робіць ён у сваё гняздо?

Адказваю: — Ах, каб табе брыдка было! Ніхталютка з вясковага асяроддзя чагосьці такога ніколі не рабіў. Гэткія прыёмы вядомы толькі вам, вучаным і перавучаным. Бы касторкі напіўшыся, гадзіце пад сябе яшбуршчынай. А з гнёздамі нам, хлопчыку, трэба разабрацца. Да чаго і прыступім. Мы, старэйшае пакаленне сялян свайго племені-роду-народу, непахісна трымаемся наседжаных гнёзд. Свята ўшаноўваем уведзеныя племянныя звычаі, традыцыі. Наколькі цяжкая, марудная, мазолістая праца хлебаробаў, настолькі яна і высакародная. Нашыя гнёзды агнём і мячом нішчылі гітлераўскія захопнікі. Не ўпалі мы ў апатыю, не падаліся з лёгкім вецярком са сваіх папялішч у свет, на чужыну. Верныя сваёй справе і ўнаследаванай любові да радзімы, не лічыліся з аддышкай-перадышкай, адбудавалі свае гнёзды і дбаем, каб яны з году ў год прыгажэлі і ўмацоўваліся. Не робім мы ў свае святыя гнёзды. Гэта ты, галубок Дваракоўскі, забыўшыся, сваёй бестактоўнай высокаадукаванасцю абрабіў мяне, Дзядзьку Кваса, старэчу, адвечнага хлебароба. Вы, нашы дзеткі, выпырхнуўшы з роднага гнязда, замест удзячнасці, сталіся ворагамі свайму роду-народу, забыліся і цураецеся свайго паходжання. Сытыя пладамі нашай хлебаробнай працы, ствараеце свой абмежаваны свет, чужы нам і праціўны. Сілаю ўпіхаеце ў родную „Ніву" свае творы-патворы, топчаце традыцыю. Мала таго, што вы, нашы дзеткі, звіхнуліся ў паэзіі, то яшчэ намагаецеся накінуць народу чужацкія традыцыі, што і выяўляецца ў артыкуле У. Дваракоўскага. Абураны, дакарае мяне, маўляў, зневажаю паэтаў моднай плыні тым, што прапаную ім (К. Бандаруку) зямлю натарыусам замацаваць, курэй гадаваць, стол вымыць дачыста. Што ж, выбачайце, высокая сфера, стол у кожнай сялянскай хаце займае ганаровае месца. На ім мы штодзень спажываем хлеб нашчадны. На ім ставім абрадную свячу. За стол садовім дарагога госця. За сталом раду радзім, расстання абед ямо. І таму стол павінен быць заўсёды чысты. Грахом лічыцца на стале сядзець, а барані Божа — нагамі стаць. У вас, як відаць, не толькі паэзія на заходні манер...

У замежных журналах даводзілася бачыць джэнтльменаў у бесцырымонных позах з заложанымі на стол нагамі ў гранд-башмаках. Падобныя адносіны да стала не толькі у К. Бандарука і У. Дваракоўскага. У „Беларускім календары" на 1978 год апісана спрэчка двух нашых паэтаў, узаемна абвінавач-

**(Працяг на стар. 7)**

# ТРЫБУНА чытачоў

## НАША БЕЛАСТОЧЧЫНА

Змяняецца наша Беласточчына з дня на дзень. Аж сэрца радуецца, калі бачыш, як развіваецца будаўніцтва спулдзельчае і прыватнае. Таксама і прамысловасць ва ўсіх былых павятовых гарадах нашага ваяводства. У Гайнаўцы шырока развілася драўнінная прамысловасць. Тут працуюць: прадпрыемства драўнінная прамысловасці, прадпрыемства сухой дыстыляцыі драўніны і прадпрыемства лясных машын.

У Сямяцічах пабудавалі велізарную фабрыку „Гортэкс", якая перапрацоўвае плёны садоў і гарода. У Бельску працуе аддзел беластоцкіх „Ухвытаў", прадпрыемства вопраткі „Каро". У Лапах вялікая цукроўня. У Саколцы прадпрыемства будаўнічай сталяркі. Усе гэтыя прадпрыемствы выраслі або былі разбудаваны ў апошнім дзесяцігоддзі. У іх працуюць жыхары гэтых гарадоў і навакольных вёсак.

Паводле статыстыкі ГУС Беласточчына ўжо пішацца як раён прамыслова-сельскагаспадарчы. 53 працэнты жыхароў Беласточчыны жыве ў гарадах.

**Вірскі**

## ЛЕКАР ПАТРЭБНЫ ЎСІМ

Шудзялаўскі пункт аховы здароўя перададзены быў у карыстанне ў 1977 годзе. Сваёй дзейнасцю ахоплівае ён амаль усе вёскі вялікай Шудзялаўскай гміны. У пабудову яго асабліва вялікую ініцыятыву ўнёс лекар Юры Ціхонскі. Таксама значны ўклад быў жыхароў навакольных вёсак. Жыхары гэтых вёсак памагалі ў земляных работах, пры пабудове фундаментаў. І цяпер кожны, хто зойдзе па хваробе ў гэты будынак, рады, што такі ён прыгожы. Тут усюды чысціня і парадак. Пра гэта дбае персанал і асабіста лекар Юры Ціхонскі.

Наш лекар — спецыяліст па ўнутраных хваробах. Умее пагутарыць з кожным пацыентам. Ужо сама яго размова дае чалавеку ўпэўненасць, што ён будзе вылечаны. Лекар стараецца дакладна агледзець пацыента. Да людзей, якія не могуць прыйсці ў Шудзялава, лекар едзе з візітам у іх дамы. Хваляць людзі лекара Ціхонскага за яго дабрату і сёння разам з імі далучаюся і я да пажаданняў: нашаму актыўнаму доктару самых сонечных дзён.

**Я. Бандарук**

## ТРЭБА АШЧАДЖАЦЬ ЭЛЕКТРАЭНЕРГІЮ

27 снежня давялося мне пабываць у вёсцы Фальваркі Тыльвіцкія. Стаю я на прыпынку ПКС і прыглядаюся да гэтай вялікай вёскі. Дзівуюся, што на двары даўно ўжо відна, а лямпачкі ўсё яшчэ гараць на слупах. І падумаў я, што адказныя за электраэнергію заблудаўскія ўлады, відаць, не ведаюць аб патрэбе ашчаджання яе. Вось дзе кілаваты ідуць на страты!...

**М. Лук'янюк**

## І ЗНОЎ ЧАМУСЬ ПРЫЙШЛА ЗІМА...

12 снежня мінулага года надвор'е стала цудоўнае ў марознай вопратцы. Размаўлялі людзі, што так раптоўна пахаладзела, але больш вопытныя жыхары цём дадавалі: бо і час на тое, гэта ж ужо снежань. Аднак не ўсе помнілі пра гэта. Не ўсе помнілі, што зноў зіма можа прыйсці раптоўна. І так здарылася на чыгуначным беластоцкім вакзале.

Цягнік, які адыходзіць з Беластока ў Варшаву а гадз. 9.12, не паспеў выехаць з Беластока ў свой час, але гэта ў нас стала ўжо нормай. У вагонах на станцыі было цёпла, то і людзі на такую дробязь не звярталі ўвагі. Зрабілася пасажырам сорамна, калі цягнік выехаў за Беласток. У вагонах пахаладзела і рабілася штораз халадней. Людзі пачалі хадзіць, пытаца, што здарылася, чаму пераcталі грэць? У такім непакоі даехалі да Лап. Там даўжэй пасталі, бо механікі-спецыялісты прыступілі да ачышчэння дарогі, якая вяла да вагонаў. І па цягніку, бы маланка, пайшла інфармацыя, што будзе цёпла, бо пара ўжо пайшла. Цягнік не быў такі і доўгі, аднак пара да вагонаў не дайшла і людзі пры марозе ў 10 градусаў да самай Варшавы ехалі.

Пасажыры былі так злосныя, што вінавацілі, як гэта бывае ў нас, усе без разбору ўлады. Але ж вінаватым за гэта з'яўляецца адзін чалавек у Беластоку, які адказвае за тэхнічную падрыхтоўку цягнікоў у дарогу. Не выканаў абавязкаў у адносінах да пасажыраў, якія верылі, што запаляцца і чыгунка завязе іх, куды трэба.

Скоры поезд з Варшавы ў Беласток 13.12.79 г. з Заходняга вакзала на Цэнтральны не змог прыехаць у свой час — замест у 17.03 прыехаў у 17.45. Гэта не ўсе чакаўшыя на пероне маглі зразумець. Але ўперадзе чакала горшае. Калі селі ў вагон, аказалася — не грэе. І бязлітасна марозіў людзей мароз з Варшавы аж ў Беласток — так было прынамсі ў апошнім вагоне. Відаць, чыгуначныя ўлады лічаць, што на Усходзе краіны людзі прывыкшыя да марозу, і няма патрэбы марочыць сабе галаву падрыхтоўкай да зімы.

**Янтар**

## САМЫЯ ПАПУЛЯРНЫЯ Ў НАС

І вось маем новы год. Я, як пастаянны чытач „Нівы", яе карэспандэнт і адначасова пісьманосец, магу ацаніць папулярнасць, пашану і прывязанасць чытачоў нашай любімай газеты да некаторых карэспандэнтаў, якія прадукуюцца пераважна на сёмай старонцы.

Людзі горнуцца да „Нівы". Чытаюць матэрыялы журналістаў, а таксама мясцовых карэспандэнтаў. І вось пару слоў хачу сказаць пра гэтых апошніх. Найахвотней чытаюць матэрыялы інж. Б. Ф. Рудкоўскіна „Запіскі натураліста". Вельмі цёпла і высока ацэньваюць яго працу. На другім месцы стаіць Пётр Байко з Белавежы, яго матэрыялы, як і Рудкоўскіна, маюць энцыклапедычную вартасць. Далей у чарзе знаходзіцца наш любімы гайнаўскі следапыт — Эдмунд Вайсковіч. Гэта праз яго чытачы дакладна даведваюцца аб жыцці Гайнаўкі і яе жыхароў і пра многія іншыя падзеі.

У Гайнаўцы абавязкова павінен быць заўсёды пастаянны карэспандэнт, бо гэта бурна развіваючыся прамысловы цэнтр. Адзін тартак тут колькі значыць! Ён самы вялікі ва ўсёй Еўропе. І Эдмунд Вайсковіч у ста працэнтах выконвае свой абавязак. Аб гэтых карэспандэнтах на маёй тэрыторыі можна штодзённа пачуць добрыя словы.

**М. Панфілюк**

## ЗНАЙШЛІ ВЫХАД

Аб пастаянным спазненні цягніка Люблін-Беласток многа гаварылася сярод падарожных. Рабочыя не траплялі на час на працу, вучні — у школы. Раённыя дырэкцыі ПКП у Беластоку і Седльцах былі бездапаможныя (так пісала ДРКП у Седльцах у адказ на крытыку). Аднак знайшлі выхад, калі захацелі.

Ад лістапада 1979 года пачаў курсаваць цягнік 88415 Седльцы-Беласток замест „Люблінянкі". Як паведаміў мне дыспетчар кандуктарскіх дружын у Чаромсе, гэты цягнік не мае цяпер спазненняў. І ўсё добра. А цягнік Люблін-Беласток пайшоў у плане цягніка 88731 (Чаромха-Бельск). Ад'езд з Чаромхі ў 6.40, як бачым, таксама і на чыгунцы няма спраў нявырашальных.

**(ус)**

## ГАЙНАЎСКІ АЎТОБУС

Як я ўжо пісаў, у лістападзе мінулага года ў Гайнаўцы была адкрыта гарадская аўтобусная лінія. На Гайнаўскім прадпрыемстве МПК працуе 13 асоб. Кіраўніком з'яўляецца Аляксандр Бавравік. Гайнаўскі аўтобус, як паінфармаваў мяне кіраўнік, праязджае наступнымі вуліцамі горада: Вейская, Горная, Бельская, 1 Мая, Вызвалення, Варшаўская і назад. Аўтобусы ездзяць ад 5 гадзіны раніцы да 11 вечара. Вопытныя шафёры з першай катэгорыяй права язды — гэта Здзіслаў Рыцак, Адам Зарэмбскі, Іван Аверчук, Рыгор Хамоцюк.

**Вірскі**

### У нашых ліцэях

## ДЗЯКУЮЧЫ АЛІМПІЙЦАМ БЕЛЛІЦЭЯ

У бельскім Доме настаўніка адбылася „Грамадзянская трыбуна". А гэта ўсё дзякуючы алімпійцам алімпіяды „Веды аб Польшчы і сучасным свеце" з Бельскага беларускага ліцэя. І тут трэба напомніць, што ў мінулым школьным годзе група вучняў з нашага ліцэя ў складзе: Андрэй Карпюк, Андрэй Рубашэўскі, Мікалай Крупіцкі, Ігар Анішчук і Міраслаў Дораш была найлепшай алімпійскай дружынай у Польшчы. Іх падрыхтоўкай да алімпіяды пакіравала настаўніца Таіса Бялецкая.

Гаспадарамі „Трыбуны" былі ўлады горада Бельска: Мікалай Хурса, Ян Садоўскі і кіраўнік БДК Сяргей Лукашук. А госці — гэта прадстаўнікі кураторыі ў Беластоку, група настаўнікаў і вучняў бельскіх школ.

У пачатку прадстаўнікі ўлад Бельска і беластоцкай кураторыі падзякавалі нашым алімпійцам, іх апякунцы і дырэктару школы за такую добрую працу. Школа атрымала таксама грашовую ўзнагароду — 16 тысяч зл. Потым усе прысутныя даведаліся ад улад горада аб зменах, якія наступяць у Бельску ў бліжэйшы час, што, дзе і калі будзе пабудавана. Гэта ўсё было вельмі цікава, бо датычылася нашага горада. Потым паявілася дыскусія. Усе былі задаволены такой формай сустрэчы.

**Заметка**

## САБАК ХОЦЬ АДБАЎЛЯЙ

Ідучы тратуарамі горада Бельска, на кожнай вуліцы можна ўбачыць ватагі сабак, якія ганяюцца па ўсім горадзе. Старэйшыя людзі так ужо да іх прывыклі, што і ніякай увагі не звяртаюць. Але вучні пачатковых класаў прайсці не могуць. Такая ватага сабак стане пасярэдзіне тратуару, і тады трэба яе абыйсці або павярнуць назад. Раніцай дык вучняў праводзяць у школу старэйшыя людзі, але і вечарам трэба выходзіць па іх у школу.

Цікавіць мяне, хто столькі нагадаваў тых сабак і пазачыняў перад імі брамы сваіх панадворкаў? Адказ на гэта добра было б пачуць ад камунальнай гаспадаркі ў Бельску, якая павінна загадаць, каб сабак вылавілі і перадалі іх Медыцынскай акадэміі ў Беластоку. Там прыдадуцца. А мо бельская ўстанова спецыялізуецца ў гадоўлі сабак у горадзе? Дык ураджай вялікі!

**С. Сцепанюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі: „ДЗЕ АРАНЖАДА?", „Ніва" № 46 (1238) ад 18.XI.79 г.**

**Адказвае:**

**WOJEWÓDZKI ZWIĄZEK SPÓŁDZIELNI ROLNICZYCH „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W BIAŁYMSTOKU.**

W sprawie braku „Oranżady" w sieci detalicznej GS w Zabłudowie uprzejmie wyjaśniamy, że ze względu na bardzo niskie wartości odżywcze tego napoju, produkcja została w ostatnich latach znacznie ograniczona i aktualnie „oranżada" występuje w niewielkich ilościach, jako uzupełnienie szerokiej gamy asortymentów napojów. Wspomniany w piśmie napój o nazwie „Karolinka" jest produkowany na bazie receptury „Oranżady" wzbogaconej dodatkiem witaminy „C", zatem uwaga dotycząca walorów smakowych w/w wyrobów nie była słuszna.

Ponadto cena detaliczna „Oranżady" wynosi 2,40 zł za but. o poj. 0,333 litr. natomiast „Karolinka" 2,50 zł na but. o poj. 0,333 litr. czyli różnica jest znikoma. Wymieniony w piśmie pozostały asortyment napojów stanowi zasadniczą grupę wyrobów produkowanych na bazie naturalnych soków owocowych i wyrobów korzenno-ziołowych, które ze względu na wysokie walory smakowo-odżywcze są preferowane i ogólnie ocenione zostały bardzo wysoko. Ceny tych wyrobów oparte są o aktualne notowania cen surowców, wyższe ceny posiadają z reguły wyroby produkowane na surowcach importowanych. Rozszerzony wachlarz asortymentów produkowanych napojów umożliwia więc zaspokojenie wszystkich potrzeb konsumentów zarówno pod względem smakowym jak i cenowym.

Wiceprezes Zarządu
d/s Kontraktacji
Skupu i Produkcji
inż. Andrzej Łętowski

**Да публікацыі „КАМУ СПАТРЭБІЛАСЯ?, „Ніва" № 40 (1232) ад 7.10.79 г.**

**Адказвае:**

**DYREKCJA REJONOWA KOLEI PAŃSTWOWYCH W BIAŁYMSTOKU.**

Na całej długości peronu ustawiona jest barierka ochronna o dł. 220 m. Część tej barierki tj. około 22 m została uszkodzona przez nieznanych osobników. Oderwane odcinki rur zgromadził i zabezpieczył kasjer przystanku.

Nawierzchnia peronu z dwóch rzędów płytek betonowych ułożonych przy krawężniku nie została zdewastowana, jak również nie stwierdzono zniszczenia poczekalni i budynku.

Uszkodzona barierka zostanie naprawiona do dnia 30.12.1979 r.

W celu zapobieżenia na przyszłość przed ewentualną dewastacją urządzeń i budynku przystanku PKP Podbiele, w okresie świąt regionalnych Zawiadowca stacji Bielsk Podlaski będzie powiadamiał Służbę Ochrony Kolei i KMO w Bielsku Podlaskim.

Dyrektor
w/z Arkadiusz Szredel

**Да публікацыі: „ПАЧАКАЛЬНЯ ПКС У ОРЛІ", „Ніва" № 47 (1239) ад 25.XI.79 г.**

**Адказвае:**

**URZĄD GMINY W ORLI.**

Uprzejmie wyjaśniam:

Wykonanie szaletu publicznego obok przystanku PKS zostało zlecone w miesiącu październiku dla Spółdzielni Kółek Rolniczych w Orli.

Drużyna harcerska przy Zbiorczej Szkole Gminnej w Orli utrzymuje czystość na przystanku.

Sekretarz Biura
Konstanty Kaponow

**Да публікацыі: „НЕБЯСПЕЧНА Ў ЗБУЧЫ", „Ніва" № 45 (1237) ад 11.XI.79 г.**

**Адказвае:**

**URZĄD GMINY W CZYŻACH.**

W chwili obecnej w Zbuczu są duże trudności w przejezdności. Niebezpieczna przejezdność ulicy jest przyczyną pozostałości przełomów z okresu wiosennego. Cała ulica wymaga przebudowy, na którą brak jest funduszy. Część przełomów została zlikwidowana w miesiącu sierpniu 1979 roku. Prace te nie zostały całkowicie zakończone z powodu braku transportu.

Obecnie ze względu na ważne potrzeby, Urząd Gminy w Czyżach polecił dla Obwodu Drogowego w Narwi doprowadzenie ulicy do stanu bezpiecznego dla ruchu kołowego we wsi Zbucz.

Sprawa naprawy drogi we wsi Zbucz była omawiana na spotkaniu z mieszkańcami wsi w dniu 3 grudnia br., gdzie Naczelnik Gminy wnosił, aby mieszkańcy posiadający ciągniki zadeklarowali dowóz żwiru niezbędnego do naprawy jezdni, lecz rolnicy nie wykazali chęci podjęcia czynu społecznego. Według oświadczenia Kierownika Obwodu Drogowego w Narwi, przejezdność drogi zostanie zapewniona jeszcze w miesiącu grudniu.

Z up. Naczelnika Gminy
**Teresa Pełka**
Inspektor d/s Budownictwa

(Працяг са стар. 5)

## У. Дваракоўскаму

ваючыся ў тым, што пішуць на каленях і на іншых, менш прыстойных частках цела. Не паложыш жа чыстай паперы на стол, на якім у сам раз толькі рэпу сеяць. Можа ўсё гэта мае сэнс у нашых паэтаў, бо не мусяць па бацьках зямлю пераймаць, працаваць на ёй, пададкі плаціць, курэй гадаваць. Вітаміны можна высацыць і на стале, а схацеўшы паласавацца яешняй, можна на зарослай лесам бацькоўскай зямлі ўзабрацца на верхавіну і падабраць з вароняга гнязда яечка, а то і сцяпаць разяву-варону на булён.

Рэшту дакажам у наступны раз.

**Дзядзька Квас**

## НЯСПАДЗЯНАЯ ХРОНІКА

Сёння інфармуем пра вельмі трагічны выпадак. У Беластоку на вуліцы Драўлянай ў хаце ўзнік пажар. Выгарэла ўсё ў сярэдзіне, а што найгоршае — смяротэльна папарыўся, пакінуты без апекі, сын гаспадыні, хлопчык шасці гадкоў. Даведзена было, што пажар узнік ад гарачай кухоннай пліты.

А на пункце скупкі ільну ў Ясяновай Даліне, гміна Янаў, згарэў стог ільну IV кл. вартасцю ў 1 мільён 200 тысяч зл. Быў гэта лён, купляны прадпрыемствам „Лёнполь" у Шчытне.




**Янка Б. з Курашава.** Верш ваш пад загалоўкам „Снарад" надрукуем у „Парнасіку" па магчымасці хутка. Добра пішаце па-беларуску. Такая ахвота прасіць вас стаць нашым карэспандэнтам. З вашых аколіц нам ён вельмі патрэбны. Значыць, дамовіліся — пішаце пра ўсё.

**Пазнаёмімся.** „Вельмі хачу перапісвацца з сябрамі з Савецкага Саюза і з краіны. Дарагая рэдакцыя, дайце мой адрас у „Ніву". Калі ласка: Ірэна Кузьма, 15-003 Беласток, вул. Сянкевіча 100 кв. 3.

**Іван Ігнацюк, Люблін.** „Пачалі мы рэпетыцыі ансамбля савецкай песні, якім я кірую. Маем новага маладога здольнага дырыжора. Вялікае дзякуй, што друкуеце ў „Ніве" беларускія песні з нотамі. Адну з іх, „Зорку Венеру", якую я ведаў, толькі не меў нотаў, хачу ўключыць у нашу праграму."

**Тамаш Кірылаў, Легніца.** Калі вярнуўся з Адэсы, быў вельмі прастуджаны. Праляжаў у ложку два тыдні. Учора ўстаў і пайшоў у кнігарню купіць „Гісторыю Беларусі". Пісаў ужо пра гэту кніжку Францішак Берніковіч. Ён расчараваны ёю. Чытаў я таксама ў „Ніве" рэцэнзіі В. Шведа і В. Ярмалковіча. Я поўнасцю згаджаюся з іх вывадамі... Лічу нетактоўным тлумачыць назву „крывічы" так, як тлумачыць аўтар кнігі. Яшчэ вучнем пачатковай школы я чуў, што крывічы — гэта людзі, якія выводзяцца з адной крыві. У мяне быў калега з-пад Браслаўля, па празвішчу Крывіч. Ён ганарыўся гэтым прозвішчам, бо яно сведчыла, што з'яўляецца ён старажытным беларусам. І яшчэ адно. Шкада, што ва ўсёй гэтай кнізе няма ніводнага слаўца пра геройства беларускіх палкоў у бітве пад Грунвальдам. Не робіць памылак аднак толькі той, хто нічога не робіць. „Гісторыя Беларусі" М. Космана — гэта першая ластаўка, якая дазволіць пашырыць круг знаёмства з Беларуссю".

